# ПРАВАСЛАЎНАЯ ДУМКА '90



НЕЗАЛЕЖНЫ ЧАСОПІС
ПРАВАСЛАЎНАЕ МОЛАДЗІ
г.МЕНСК

## НАВІНЫ

\+ Пасьля канчыны Патрыярха Пімена у Маскве Памесным саборам выбраны новы Патрыярх. Ім стаў мітрапаліт Пецярбургскі і Ноўгарадзкі Алексій. Увядзеньне у сан Сьвяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія Другога адбылося 10 чэрвеня 1990 г. у Богаяўленскім саборы Масквы. Рэдакцыя "Праваслаўнай Думкі" жадае "многая лета" новаму Патрыярху, а таксама посьпехаў як першаму Сьвятару Царквы, пад кананічным ап...аваньнем якой знаходзіцца і Беларуская Праваслаўная Царква. Дададзім што: мірское імя Патрыярха — Аляксей Міхайлавіч Рыдзігер, яму — 61 год, родам ён з Таллінну, а продкамі яго былі — у даўніх пакаленьнях — абруселыя нямецкія бароны. Род ягоны — багаты на сьвятароў.

\+ У Менску ўрачыста сьвяткаваліся дні Славянскай пісьменнасьці і культуры. Матэрыялы аб сьвяце Вы можаце прачытаць на стар. 3-6.

\+ Як ніколі багата моладзі ўзяло ўдзел у паломніцтве на сьвятую гару Грабарку, што з'яўляецца адной з Праваслаўных сьвятыняў Польшчы. Гэта адбылося у траўні, і грабарскія салаўі пачулі, як сьпяваюць беларускія песьні тамтэйшыя вернікі — у асноўным навучэнцы беларускіх ліцэяў, школ, а таксама студэнты з праваслаўнай сэмінарыі у Яблэчна і Варшаўскіх ВНУ.

\+ У сярэдзіне траўня пры Гайнаўскай царкве /Польшча/ адбыўся чарговы Агульнапольскі фестываль царкоўнай музыкі. З сацыялістычнай Беларусі прыехалі два хары: Менскі камерны хор пад кіраўніцтвам Машохова і хор хлопчыкаў Менскай спецыяльнай музычнай школы пры Белдзяржкансерваторыі пад кіраўніцтвам Таісіі Міронавай. Хлапчукоў надта гасьцінна прынялі дзяўчаты дзіцячага хору Гайнаўскай царквы. Менчукоў, трэба сказаць, уразіла веданьне і шанаваньне роднай мовы малашымі беларусачкамі. Затое менчукі ўразілі сваімі сьпевамі — пад купалам Гайнаўскай царквы яны два дні славілі Бога старадаўнімі беларускімі кантамі/ў расшыфроўцы дацэнта Белдзяржкансерваторыі Ларысы Касьцюкавец/. Адзін з гэтых кантаў, надзвычай меладычны, мы прапануем нашым чытачам /гл. стар. 7/.

\+ На Салаўках завершыла работу адна з камісій Вярхоўнага Савету СССР. Члены камісіі падтрымалі просьбу Архірэйскага Сабору Рускай Праваслаўнай Царквы аб перадачы Архангельскай епархіі пабудоў былога Салавецкага манастыра. Зачынены пасьля бальшавіцкага перавароту і ператвораны ў адну з самых жудасных зон ГУЛАГ-у, гэты цуд дойлідства і прыроды прыйшоў у поўны заняпад. У гады вайны у былым манастыры дзейнічала школа юнгаў. Апошнія гады манастырскія пабудовы занятыя пад канторы, склады ды магазіны. Як стала вядома, пісьменьнік Аляксандр Салжаніцын распарадзіўся пералічыць ганарары за выданьне сваіх кніг у СССР /гэта каля двух мільёнаў рублёў/ на карысьць Салавецкага манастыра.

# ПРАВАСЛАЎНЫЯ АЎТАРЫ



Натальля Арсеньнева.

## Л Е Т А

– Ой, жала-ж я да вечара,
Баліць мая сярэдзінка...

Беларуская жніўная песьня.

аўляў той жытні сноп, уціснула сьпякота
Пярэвяслам тугім расьцяглы далягляд...
усае лыткі тонкія асот ласкотны:
і ў жменьку дробную уторкщуў серп Ільля.

Няспорна праца йдзе... Ірдзяняцца крывяна
алыя пальцы, твар, сярэдзіна смыліць,
і уваччу плывуць, куляючыся п'яна
у плаўкой гарачыні, пяшчаныя палі.

Да полудня – гады, а пахне луста хлеба
і квас у гладышы салодка ўжо цяпер
І мроіцца лука – рака у зялёным зрэб'і
карузлых вербалоз і водарны аер...

Гарыць агнём лязо сярпа у радкой саломе.
Кладуцца за плячмі снапы...
снапы...
снапы...
Пярэвяслам тугім уціснуўшы,
палоніць
сьпякота далягляд замлелы і
сьляпы...

# ДУХОЎНЫЯ СЬПЕВЫ

Развучыце для хатніх сьпеваў ці для Калядаў! Надзвычай мелядычная беларуская псальма ХУІ стагодзя /у расшыфроўцы дацэнта Белдзяржкансерваторыі Ларысы Касьцюкавец/.



Нова радасьць стала, яка не бывала.
Над вярцепам зьвязда ясна, сьветла вазсіяла. /2 р./

Дзе Хрыстос радзіўся, зь Дзевы ваплаціўся,
Як чалавек пеленамі ўбога павіўся. /2 р./

Ангелі сьпяваюць, славу васклікаюць.
На небесі і на землі Бога вазглашаюць. /2 р./

І мы тож сьпяваем, Хрыста праслаўляем,
Мелацзіўна і прайдзіўна Бога выхваляем. /2 р./

Просім Цябе, Цару, нябеснага пару,
Даруй лета шчасьлівыя сему гаспадару. /2 р./

У міры правадзіці, Табе угадзіці.
І з Табою у Царстві Тваім навек вякоў. /2 р./

# ГЭТА ЦІКАВА

7 лістапада 1964 г. у Тэль-Авіве, у пасольстве СССР, пасол Міхаіл Бадроў і Голда Меір, прэм'ер-міністр, паднялі бакалы з шампанскім -- з нагоды узаемакарыснага гешэфту -- продажу часткі рускай царкоўнай уласнасьці Ізраілю за 4,5 млн. даляраў. СССР пагадзіўся атрымаць не валютай, а ... аранжыкамі.

"Новое время", №15, 6.04.90.

## ЦАРКВА Ў ЧАС СЬВЯТА СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЬЦІ І КУЛЬТУРЫ

Подыхам добрага, роднага, адвечнага прыйшло гэта Сьвята да нас на Беларусь. Сваё, славянскае, ад Кірылы і Мяфодзія, ад Эўфрасіньні Полацкай і Кірылы Тураўскага. Дзень памяці сьвятых Братоў супаў зь вялікім Хрысьціянскім сьвятам Узьнясеньня, што сёлета разам сьвяткавалі праваслаўныя і каталікі. І хоць пры жыцьці Кірыла й Мяфодзій шмат пацярпелі ад лацінян - нямецкіх баронаў - за пераклад Слова Божага на славянскую мову, ужо стагоддзі імёны іх сьвятыя і для Усходняй, і для Заходняй цэркваў.

Дарэчы, ішлі яны і іх вучні ў свой час пасьпяхова да ўсіх славян: у Маравію, Польшчу, але пачаліся жорсткія ганеньні лацінян, уцёкі ў Балгарыю, росквіт тут славянскай пісьменнасьці і веры Хрыстовай. І магутнае распаўсюджваньне славянскіх кніг, усёй велізарнай культурнай спадчыны праваслаўнай Візантыі ў Старажытнай Русі. Амаль што ў Х ст., сярод першых, прыняла Хрысьціянства зямля Полацкая, Тураўская; тут былі першыя пасьля Кіева епіскапіі на Русі, незвычайна багатыя зборы грэцкіх і славянскіх рукапісаў у бібліятэцы Полацкага Сафійскага сабору і блізкага да Полацку Іаана-Прадцечынскага манастыру. Ды і ня дзіўна — князёўна-ігуменьня Эўфрасіньня была ня толькі праўнучкай роўнаапостальнага князя Уладзіміра, але, як мяркуюць, і ў сваяцтве зь Візантыйскім дваром. Усё, што атрымліваў Кіеў зь Візантыі - з духоўных багацьцяў хрысьціянскай антычнай спадчыны, - трапляла ў Полацк і Ноўгарад. Ды і сама ігуменьня і арганізаваны ёю скрыпторый шмат кніг перапісалі, каб даць народу свайму сьвятло веры Хрыстовай, здаровае маральнае. Да нашых дзён захоўвае Царква і нясе народу тое духоўнае багацьце, захоўвае ў набажэнствах мову славянскую, яе хараство і ўрачыстасьць — гэтую цудоўную крыніцу моўнай поўнасьці, глыбіні, духоўнай узвышанасьці. Прайшлі стагоддзі, і хаця народ наш 70 год пазбаўлялі веданьня славянскай мовы, яна і зараз жыве, зразумелая можа і ня ўсім дасканала, але родная, любімая. Наш народ, як зараз прынята гаварыць, генэтычна памятуе сваё братэрства - і крывёю, і духам - з усімі славянамі, а асабліва з рускімі і украінцамі, бо хрышчаныя з адной купелі Сьвятым Духам, адной верай успаёныя. І якія-б гістарычныя, палітычныя трагедыі і раз'яднаньні ні былі, якая-б палітыка ўладамі і чалавекамі ні праводзілася, а гэтае духоўнае адзінства, дзякуй Богу, жыве.

Сумна, што беларускі народ амаль ня ведае гісторыі сваёй культуры, што зараз знайшліся людзі, якія ўпарта хочуць, каб зусім пазбыліся старажытнай праваслаўнай культуры і "пачалі жыць" з ХУІ ст., з трагічных часоў уніі, нібыта праваслаўе сілком наводзіў у Беларусі ў 1839 г. цар. Дзіўна, што гэтак пішуць людзі, якія лічуць сябе адукаванымі. Нібыта шануюць памяць Скарыны і забываюцца, як ён клапаціўся аб царкоўнаславянскай мове: менавіта на ёй выдаў першую кнігу "Псалцір" для народнага чытаньня, а пасьля "Апостал" і ўсе тэксты "Малой падарожнай кніжыцы". Выдаў для праваслаўных Беларусі, каб духоўна ўмацоўваліся. Мог-жа перакласьці, але ведаў, што самыя вядомыя ў народзе - славянскія пераклады. Сам тэкст Скарынінскай "Бібліі" — беларуская рэдакцыя славянскае мовы, з заменай архаічных словаў. І толькі прадмовы-тлумачэньні да Сьвятога Пісаньня — на мове шырокага народнага ўжываньня — старабеларускай. Вучоны разумеў значэньне высокага стылю славянскай мовы самога набажэнства і Сьвятога Пісаньня для культуры народа. Іншая справа — казаньні, пропаведзі, палемічныя творы, лісты. Дарэчы, уніяцкія набажэнствы на беларускай мове /скарочаныя і зьмененыя ў чымсьці праваслаўныя/ зьявіліся не спрадвеку, як імкнуцца давесьці, а ў канцы ХУІІІ-ХІХ ст.ст. А ўсе духоўныя літургічныя багацьці Усходняй Царквы, патрыстыку ніхто так і не перакладаў. Ды і наогул, унія, як акт палітычны свайго часу, ня мела на ўвазе пытаньне нацыянальнай мовы, таму і захоўвалася ў набажэнствах доўга /а часам і зараз/ славянская мова. Калі мы лёгка прыходзім да яе разуменьня ў ХХ ст., дык тым больш ня было моўнай бяды ў ХУІ-м — у часы мовы старабеларускай. Але-ж мы адыйшлі ўбок. Ведаеце, баліць, калі зноў уводзяць у зман недасьведчаных, зноў цягнуць народ да манкуртства.

А зараз аб славянскім сьвяце ў царкоўным жыцьці. /Аб сьвецкім

сьвяткаваньні газэты паведамлялі./ Пачалося так: 23 траўня ўвечары ва ўсіх праваслаўных храмах сьвету адбыліся ўсенашныя з нагоды Сьвята Узьнясеньня Хрыстова і ў памяць славянскіх асьветнікаў, а 24 гадзіне — літургіі. У Менску зранку, а 6 гадзіне служылася літургія ў прыгожай маленькай царкве-хрышчальне Сьв. Кірылы і Мяфодзія, што пад Кафедральным Саборам на пляцы Волі, а пасьля – раньняя літургія ў Саборы і вялікая ўрачыстая літургія а 10 гадзіне. Яе правіў мітрапаліт Філарэт, Партыяршы Экзарх усяе Беларусі і балгарскі епіскап Нафанаіл. Народу было вельмі шмат. Пратаіерэй сабору а.Георгій Латушка сказаў пропаведзь па-беларуску — аб сьвяце, аб роднай мове.

Цікава, што людзі розных нацыянальнасьцяў, якія былі ў саборы, прынялі яе беларускае гучаньне зусім натуральна. Сьпявалі тры хары — Кафедральнага сабору, камерны Мацюхова і хор праф. Роўды. Адбылася працэсія да мейсца, дзе да сьвята ўстанавілі, на царкоўным муры, дошку са скульптурнай выявай славянскіх асьветнікаў. Прагучала малітва, сьпевы. Старажытная вуліца напоўнілася ўрачыстасьцю — яна атрымала імя сьвятых Кірылы і Мяфодзія /замест імя рэвалюцыянера Бакуніна/. Пасьля народ — на чале з мітрапалітам, міністрам культуры, сьвятарамі — пайшоў праз горад да плошчы Перамогі. Шэсьце было радаснае, свабоднае, ярка сьвяціла сонейка, на сярэдзіне вуліцы плясалі дзяўчаты і хлопцы ў нацыянальных адзеньнях. Наўзбоч гралі музыкі на цымбалах, дудках. Ля помніка ўжо чакаў вялікі хор пад кіраўніцтвам праф. Роўды. Прагучалі званы, старажытныя славянскія царкоўныя сьпевы. Выступілі беларускія і рускія пісьменьнікі, слова сваё ў гонар славянскіх асьветнікаў і аб нашай культуры сказаў мітрапаліт Філарэт, закончыўшы яго ўдзячнасьцю тым, хто аддаў жыцьцё "за другі свая". Прагучала сумная і велічная "Вечная памяць" нябожчыкам і радаснае, сонечнае "Многая лета" жывым. Вечарам на ўрачыстым паседжаньні ў тэатры оперы і балету выступіў Мітрапаліт Філарэт, адбыўся вялікі канцэрт царкоўных хароў, іншых вядомых музычных калектываў.

За тыдзень сьвята адбылося некалькі канцэртаў духоўнай музыкі, вельмі цікавы фестываль дакументальных фільмаў аб Праваслаўнай Царкве /у кінатэатры "Перамога"/ — лепшых з Маскоўскага фестывалю /фільмы Патрыярхіі, дакументальных студый/. Вельмі прыгожыя, маляўнічыя, багатыя гістарычнымі зьвесткамі і сьведчаньнямі сучаснасьці, яны глыбока паказалі духоўныя і мастацкія багацьці Царквы, яе ролю ў жыцьці народа на працягу 1000 год, яе сьвятыні, справы міласэрднасьці, асьветніцкую ролю манастыроў, жыцьці Сьв. Кірылы і Мяфодзія, Эўфрасіньні Полацкай, Сергія Раданежскага і інш. Кожны вечар дэманстраваліся 3-4 фільмы, а перад імі выступалі сьвятары, мастацтвазнаўцы, царкоўныя хары, дзіцячыя — з царкоўнымі сьпевамі. У пачатку фестывалю выступіў Уладыка Філарэт. Асаблівае ўражаньне зрабілі фільмы "За другі свая" — аб Царкве ў гады Вялікай Айчыннай вайны і яе патрыятычнай ролі на працягу стагодзьдзяў, — "Пад богадатным небам" — аб гісторыі Царквы за 1000 год, яе вялікіх мастацкіх скарбах, традыцыях, ролі РПЦ у гістарычным і духоўным жыцьці народу, — "З намі Бог" — аб Царкоўным саборы 1988 г., кананізацыі сьвятых, сьвяткаваньні 1000-годдзя Хрышчэньня Русі ў Маскве, Кіеве, Уладзіміры, у манастырах і храмах нашай краіны і за мяжой. Багаты гістарычны дакументальны матэрыял фільмаў, рэжысёрскае і апэратарскае майстэрства, высокая якасьць каляровай стужкі, запісаў царкоўных сьпеваў — усё гэта зрабіла фестываль сапраўдным сьвятам.

У рамках Сьвята славянскай пісьменнасьці адбыліся навуковыя канферэнцыі, што арганізавалі АН БССР і БДУ, Мастацкі музей і Музей старажытнай культуры Беларусі, навукова-багаслоўскі калёквіўм у Менскай епархіі /26 траўня/. У пачатку яго Уладыка Філарэт прачытаў малітву на пачатак справы, хор сэмінарыі прасьпяваў трапар у гонар Сьв. Кірылы і Мяфодзія. У калёквіўме ўзялі ўдзел епіскап Нафанаіл /Сафія/, [illegible], прафесар Тадэвуш Гуцач /Кракаў/, прафесар Хрыста Стаянаў /Сафія/, [illegible] Лука /Белград/, праф. Шахоўскі /Парыж/, праф. Пасьпялоўскі /[illegible]/, праф. Піліпонка /ЗША/, ігумен Інакенцый /Масква/.

Алесь Каўка, канд.філ.навук Лабынцаў, А.І.Рогаў /Масква/, нашы вучоныя і літаратары Мальдзіс, Конан, Яскевіч, Сёмуха і іншыя, усяго каля сарака чалавек. Было заслухана 12 дакладаў, адбылася жывая дыскусія. Разгледжаны шэраг пытаньняў славянскай гісторыі ў яе духоўным аспекце і ў цеснай сувязі з духоўным станам сучаснага грамадства, роллю Царквы. З вельмі цікавым дакладам аб духоўным асьветніцтве Скарыны выступіў старшыня Беларускага таварыства імя Скарыны /Масква/ А.Каўка. А.Мальдзіс асьвяціў тэму: "Роля Ф.Скарыны ў зблiжэньні Праваслаўнага Ўсходу і Каталіцкага Захаду". У.Конан: "Нацыянальнае адраджэньне: славянская ідэя і сацыяльна-этычная праблема". Трывогай і глыбокай зацікаўленасьцю гучала выступленьне члена Біблейскай камісіі ігумена Інакенція аб вельмі сумным стане захаваньня скарбаў старажытных славянскіх рукапісаў у Гістарычным музеі /Масква/, аб неабходнасьці іх перадачы Царкве для адпаведнага захаваньня і падрыхтоўкі да навуковага выданьня.

На завяршэньне дзён Славянскага пісьменства і культуры адбылося вялікае сьвята ў Вязынцы -- з выступленьнямі нашых лепшых музычных калектываў, царкоўных хароў, выступленьнямі паэтаў і грамадзкіх дзеячоў, гасьцей з братніх славянскіх краін.

Сьвята удалося, і хай заусёды сьвецкая і духоўная плыні нашага жыцьця гучаць так гарманічна, як у гэтыя сапраўды асьвеньчаныя травеньскія дні!

Хрысьціна Валькевіч.

+

## З КАЗАНЬНЯ ПРАТАІЕРЭЯ МЕНСКАГА КАФЕДРАЛЬНАГА САБОРУ а. ГЕОРГІЯ ЛАТУШКІ У ДЗЕНЬ СЬВЯТА Сьв. КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ.

Сёняшняе Сьвята патрабуе ад нас асаблівых адносін, асаблівага стану. Сьвята славянскага пісьменства і культуры сьвяткуецца ў дзень сьвятых братоў, роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія. Няхай-жа вялікая падзяка, вялікая пашана да іх прагучыць на мове тае зямлі і таго язьіка /народа/, дзе зараз адбываецца гэтае сьвята. Бо і беларуская мова, беларуская культура расьце з тых каранёў, з таго агульнаславянскага ствала, якія вырасьцілі сьвятыя Кірыла і Мяфодзій.

Зь вялікім ліхам, цяжкасьцямі і сьлязмі яны несьлі місію апостальства. Нялёгкі шлях і нам трэба прайсьці да сьвятла Хрыстовага, да разуменьня, што толькі Хрыстос ёсьць шлях, ісьціна і жыцьцё. Нялёгка і утрымацца ў ісьціне, зьберагчы гэты скарб. Нагадаю вам вялікі і пакутлівы балгарскі народ. Упэўнены, што веліч духа балгарскага народу — ад спадчыны сьвятых Кірылы і Мяфодзія. Яны зьберaглі сваю веру, сваю мову, свой народ. Самі сябе -- самасьвядомасьць. А ці маем мы права з усімі праваслаўнымі казаць за Багаслужэньньем: "з усімі сьвятымі памянуўшы самі сябе і друг друга і увесь жывот наш Хрысту Богу аддадзім"?

Хрыстос чакае, каб кожны народ нёс да Яго тое, што уласна належыць гэтаму народу, усю сваю маёмасьць. Мова таксама належыць да гэтай народнай маёмасьці. Але-ж мы зьявіліся няшчырымі і лянівымі рабамі. Хіба варты пашаны той, хто адцураўся свае́й хаты і сваіх

бацькоў, ды яшчэ саромяецца іх. Няверны ў малым, будзе няверны і ў вялікім. Людзі, што лёгка і хутка адцураліся ад сваёй мовы і сваёй культуры, так-жа лёгка і хутка здрадзяць сваёй Веры і Маці-Царкве. Нагадаю Божы Запавет, дакладней 5-ю запаведзь Божую: "Шануй бацьку твайго і маці тваю, ды добра табе будзе і доўгія гады на зямлі будзеш". А хто шануе бацькоў, той шануе і мову іх.

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

"У 6-м № "ЛіМ"-а 1990 г., пад загалоўкам "Шлях пакутніка. Па старонках адной малавядомай кнігі" нейкі Іван Ласкоў так м.ін. піша: "Хоць і хрышчаны ў праваслаў'е, я павінен прызнаць, што каталіцкая царква бліжэй да простага народа. Каталіцкае духавенства, не абцяжаранае сям'ёй, ня мае патрэбы ў матэрыяльных сродках больш за тыя, якіх дастаткова для падтрыманьня жыцьця".

У цікава наогул напісанай рэцэнзіі на кнігу Язэпа Германовіча "Кітай-Сібір-Масква. Успаміны". Мюнхэн, 1962, дзе І.Ласкоў упершыню так шырака і дэталёва прадставіў чытачу ў савецкай Беларусі замучаных сталіністамі ў расейскіх лагерах выдатных духоўных дзеячоў нашага народу, зьявіўся, на жаль, гэты вось вышэй цытаваны пасус, які выразна акрэсьлівае аўтарскія адносіны да "свайго" праваслаўя і "чужога" каталіцтва. Як у беларусаў здавён склалася: "сваё" -- горшае, "чужое" -- лепшае.

Прыкра чытаць такое не таму, што маем дачыненьне з адшчапенцам, чалавекам, які з кан'юнктурных прычын мяняе сваю веру, але таму перш за ўсё, што ў гэтым ягоным выказваньні што ні сказ, то няпраўда.

Як ведама, Польшча і Калюмбія гэта ў сучасным сьвеце дзьве дзяржавы, дзе каталіцтва дасягнула найбольшага росквіту і татальнага ўзьдзеяньня на грамадзтва -- палітычнае жыцьцё сваіх грамадзян. Пражываючы ў "воку цыклона" нам дакладней відаць, чым ёсьць сапраўды каталіцызм. Аўтару рэцэнзіі варта было-б ведаць, што на працягу толькі апошніх сарака пасьляваенных гадоў пабудавана ў Польшчы на многа больш касьцёлаў, чымсьці калі-колечы ад пачатку яе гісторыі. Рост эканамічна-матэрыяльнай магутнасьці касьцёла ідзе упоравень з тою роляй, якую ён зараз спаўняе ў штодзённым жыцьці палякаў. А спаўняе аграмадную ролю і таму іменна, што на службу да яго пайшла навалам інтэлігенцыя, у тым ліку таксама інтэлігенцыя творчая. Якраз гэта двухстаронная сукарысьлівасьць ёсьць фундамэнтам моцаты каталіцтва і ня толькі ў Польшчы. Таму гратэскна гучаць для нас "я павінен прызнаць" І.Ласкова, што "каталіцкая царква бліжэй да простага народа", бо як трэба паводле яго разумець, яна "ня мае патрэбы ў матэрыяльных сродках ..." Я не хачу гаварыць пра тое, што ксяндзы жывуць у мадэрна збудаваных дамах, што маюць канкубіны /сваё сямейнае жыцьцё/, бо кожны чалавек павінен добра жыць і так, як яму падабаецца. Але праўдаю ёсьць тое, што ўсе пабудовы касьцельныя вылучаюцца сваім дабрабытам і раскошай.

Калі гаворка ідзе пра так сказаць філасофскую праблему: якая канфэсія - каталіцызм ці праваслаўе - бліжэй да простага народу, Івану Ласкову варта пачытаць, калі не на рускай мове, дык на іншых мовах, трохі кніг - між іншым Бэртранда Рассэла.

З рэцэнзіі І.Ласкова вынікае, што аўтар не абмяжоўваў сябе мэтай даць толькі гістарычна-этычную ацэнку мінуламу этапу, трагічнаму этапу ў гісторыі беларускага народу, але пры гэтай нагодзе паспрабаваў сьпячы і свой блін. "Хрышчоны ў праваслаўе", ён фактычна выказваецца супраць веры сваіх бацькоў і прадзедаў, яму бліжэй калі ня ўвогуле каталіцтва, то напэўна прапагаваная зараз на Беларусі ідэя павароту беларусаў да уніяцтва."

Ліст з Беласточчыны.
/ГОЛАС ЧАСУ, №3/6, травень-чэрвень 1990 г./

# ПАДУМАЙЦЕ



Рускі камунізм, калі паглядзець на яго глыбей, у сьвятле рускага гістарычнага лёсу, ёсьць дэфармацыя рускай ідэі, рускага месіянства і універсалізму, рускага шуканьня валадарства праўды, рускай ідэі, што набыла ва ўмовах вайны і распаду пачварныя формы. Але рускі камунізм болей зьвязаны з рускімі традыцыямі, чым звычайна пра яго думаюць, традыцыямі ня толькі добрымі, але й дужа благімі. Нігілістычныя адносіны да сьвету і да чалавека ёсьць скажоная форма аскетычнага праваслаўя. І мы падыходзім да апошняй праблемы, праблемы рэлігійнай, да адносін паміж камунізмам і праваслаўем.

Нянавісьць рускіх камуністаў да хрысьціянства зьмяшчае ў сабе супярэчнасьць, якую ня здольныя заўважыць тыя, чыя сьвядомасьць падаўлена камуністычнай дактрынай. Лепшы тып камуніста, г.зн. чалавека цалкам адданага служэньню ідэі, здольнага на велізарныя ахвяры і бескарысьлівы энтузіязм, магчымы толькі як вынік хрысьціянскага выхаваньня чалавечых душ, як вынік перапрацоўкі натуральнага чалавека хрысьціянскім духам. Плён гэтага хрысьціянскага ўплыву на чалавечыя душы, чыста нябачнага і надзямнога, застаецца і тады, калі ў сваім розуме людзі адмовіліся ад хрысьціянства і нават сталі яго ворагамі. Калі ўявіць, што антырэлігійная прапаганда канчаткова зьнішчыць сьляды хрысьціянства ў душах рускіх людзей, калі яна зьнішчыць усякае рэлігійнае пачуцьцё, то ажыцьцяўленьне камунізму зробіцца немагчымым, бо ніхто не пажадае несьці ахвяры, ніхто ня будзе ўжо разумець жыцьцё як служэньне звышасабовай мэце, і канчаткова пераможа тып шкурніка, які думае толькі аб сваёй карысьці. Гэты апошні тып і цяпер ужо адыгрывае не малую ролю ...

Камунізм па сваёй ідэі хацеў-бы ажыцьцявіць ня толькі справядлівасьць, але і братэрства ў чалавечых адносінах, "камуніён" паміж людзьмі. Але наіўна і сьмешна думаць, што братэрства паміж людзьмі можа спраўдзіцца праз вонкавую прымусовую сацыяльную муштроўку, праз звычку ... Для гэтага патрэбна дзеяньне глыбінных духоўных сіл. Матэрыялістычны і атэістычны камунізм альбо асуджаны на няўдачу і на пагібель, альбо на стварэньне грамадзтва, падобнага механізму, у якім нельга ўжо будзе заўважыць людзкае аблічча.

Сьвет перажывае небясьпеку дэгуманізацыі. Само існаваньне чалавека пад пагрозаю. Супрацьстаяць гэтай небясьпецы можа толькі духоўнае ўмацаваньне чалавека ... Хрысьціянства ізноў паклікана абараніць чалавека ад зьняволеньня яго старымі касьмічнымі і новымі тэхнічнымі сіламі.

Мікалай Бярдзяеў.

# НАС ІНФАРМУЮЦЬ

\+ У канцы траўня ў горадзе Елгава /Латвія/ упершыню за апошнія 50 гадоў настаяцель Тройца-Задзьвінскай царквы архімандрыт Кірыл адслужыў літургію ў калёніі. Сьпявау жаночы хор манахінь Сьвята-тройца-Сергіева манастыра. Айцец Кірыл мовіў казаньне па-руску, а айцец Іаан -- па-латышску. Прысутнічала каля 500 вязьняў, у асноўным -- моладзь. 30 чалавек выказала жаданьне спавядацца і прычасьціцца. Адміністрацыя калёніі /ІТК-4/ дала спецыяльнае памяшканьне для сустрэч сьвятароў зь вязьнямі.

\+ У Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ставіцца пытаньне аб ігнараваньні мусульманскімі краінамі міжнароднай Дэкларацыі аб волі веравызнаньня. Хрысьціяне ў Саудаўскай Аравіі, якіх налічваецца каля паўмільёну, ня маюць ніводнай царквы, і яны вымушаны езьдзіць у суседнюю Іарданію, дзе побач зь мяжой, сьпецыяльна для вернікаў з Саудаўскай Аравіі, пабудаваны сабор. У Непалу такое-ж цяжкае становішча. У Маўрытаніі кожнага, хто пяройдзе з мусульманства ў хрысьціянства, чакае пакараньне сьмерцю, у Пакістане за гэта даюць тры гады астрогу.

\+ У Заходняй Германіі пачалася арганізацыя групы моладзі, якая бясплатна будзе працаваць на ўзнаўленьні пабуранага ў гады вайны акупантамі манастыра сьвятога Іосіфа Валоцкага, што недалёка ад Масквы.

+ Кардынал Уга Палецi, якi з'яўляецца генеральным вiкарыям Рымскай бiскупii, абвясьцiў, што Рыму патрэбна 50 новых касьцёлаў. Касьцёлы патрабуюцца, у асноўным, на новыя пасяленьнi каля Рыму. Ужо сёньня Рымская бiскупiя мае 624 касьцёлы.

+ 17-19 траўня ў Маскве адбыўся першы з'езд манархiстаў Расii. Арганiзацыя манархiстаў iснавала з 1924 году. Тое, што адбылося, стала легалiзацыяй дзейнасьцi, якая змушана была iснаваць у глыбокiм падпольлi. Наданьне саюзу /Праваслаўна-манархiчны саюз – ПРАМАС/, па заяве кiраўнiка /маршала/ С.В.Юркова-Энгельгардта, статута партыi стала неабходным для пераходу да актыўнай палiтычнай дзейнасьцi: яе мэта — набыцьцё большасьцi ў парлямэнце i склiканьне Земскага Сабору, якi паклiча /не выбярэ!/ на валадарства Вялiкага Князя Уладзiмiра Кiрылавiча Раманава цi тога, хто будзе мець права пасьля яго на расiйскi трон. З'езд адбыўся ў малой зале кiнатэатра "Кунцава". На думку кiраўнiкоў арганiзацыi, Расiя -- краiна манархiчная, i манархiя -- адзiна магчымы лад для яе iснаваньня. Кiраўнiкi ПРАМАС, прадстаўнiкi праваслаўнага духавенства /з тых, хто не баiцца бачыць у забiтым iмператары i членах яго сям'i новапакутнiкаў/ аднaзначна характарызавалi нябожчыка-валадара як чалавека, што, безумоўна, ня быў вольны ад памылак, але падкрэсьлiвалi яго высокую маральнасьць i вялiкае пачуцьцё абавязку перад краiнай. Адрокшыся ад трону за сябе i за свайго сына, ён зрабiў гэта выключна для дабра Расii, жадаючы дапамагчы ёй. Шматразова маючы магчымасьць зьехаць за мяжу, ён ня кiнуў краiну ў лiхалецьцi, прыняў пакутнiцкую сьмерць на роднай зямлi.

У новай партыi шмат моладзi. Маладзёжная арганiзацыя дзейнiчае з сакавiка 1990 году i мае намер дамагчыся вяртаньня Праваслаўнай царкве храма Сьв. Таццяны, у якiм цяпер студэнцкi клуб МДУ. Прысутныя былi азнаёмлены з тэкстам тэлефонаграмы, што паступiла ад начальнiка паходнай канцылярыi Вялiкага Князя /бо тэлеграма, пасланая iм, не дайшла/, у якой Уладзiмiр Кiрылавiч пажадаў посьпехаў манархiчнай партыi.

+ У канцы траўня адкрыўся, пасьля 60-гадовага перапынку, Нiжагародзкi кiрмаш. На адкрыцьцi адбылася лiтургiя ў Спаскiм саборы /Старакiрмашным/ з нагоды сьвята сьвяцiцеля Мiкалая. Малебен быў прысьвечаны прэпадобнаму Макарыю, прызнанаму апякуном Нiжагародзкага кiрмашу.

# ГОЛАС РЭДАКТАРА

Я рады, шаноўны чытач, зноў сустрэцца з табой на старонках "Праваслаўнае думкi". Палiтычныя страсьцi захлiснулi Радзiму. Надышоў час, калi ў вызваленчым руху, у маладзёжных арганiзацыях людзi пачынаюць групавацца па iнтарэсах, шукаюць адзiн аднаго. Беларусь стаiць перад шматпартыйнасьцю. У Расii, Прыбалтыцы, там, дзе рэжым здае свае пазiцыi хутчэй, ужо зьявiлiся асноўныя клясычныя партыi. Заўтра яны зьявяцца i ў нас. Хто прыйдзе да ўлады пасьля камунiстаў? Якiм лiдэрам Беларусь зможа даверыць свой лёс?

Сёньня, калi рэжым хапаецца за кожную саломку i мусiць наладзiць адносiны з Царквой, цi не памыляюцца некаторыя царкоўныя дзеячы, упадаючы ў эйфарыю ад жаласьлiвых дарункаў /вяртаньня часткi таго, што па закону належыць Царкве/? Цi ня засьцяць урачыстасьцi штодзённай працы -- асноўнай i так неабходнай мэнавiта сёньня: у сваiм "язычнiцтве" Беларусь адкiнутая бальшавiкамi ледзь не да першых вякоў пасьля Хрышчэньня.

Надыходзiць час, калi мы адкiдваем эмоцыi i цьвяроза глядзiм, што мы мелi, што маем, што мусiм мець заўтра.

Iгар Котаў.

Рэдактар Iгар Котаў /Страцiлат/.
Мастак Кастусь Пракшковiч.
Часопiс "Праваслаўная Думка" не зьяўляецца органам афiцыйных царкоўных уладаў i адлюстроўвае думку незалежнае рэдакцыi. Дасылаецца ў Амэрыку, Канаду, Аўстралiю, Нямеччыну, Расiю, Балтыйскiя краiны, Украiну, Польшчу. Выдадзена коштам рэдактара. Наклад 10 000 асобнiкаў.